ГРОДНА
№17 (546),
27 верасня 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Настаўнік як светач



*1-ая нядзеля кастрычніка ў Касцёле ў Беларусі прысвечана малітве ў інтэнцыі выкладчыкаў, настаўнікаў, выхавацеляў і катэхетаў. Кожны з іх мае заданне несці веды, а значыць несці святло людзям.*

*на старонцы* 3

## Апостальскі нунцый звярнуўся да католікаў Беларусі




*"Малюся да Панны Марыі, каб заўсёды натхняла вас, дапамагала ў цяжкія моманты жыцця".*

*на старонцы* 4

## Сакрэт выслуханай малітвы



*Людзі нярэдка прыходзяць да высновы, што іх малітвы "безвыніковыя". Як жа трэба маліцца, каб Бог пачуў?*

*на старонцы* 7

# АРЦЫБІСКУП ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ: "ГЭТЫ КРЫЖ Я ПРЫМАЮ З ПАКОРАЙ"



Catholic.by

**З 31 жніўня Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч знаходзіцца за мяжой па прычыне забароны вяртання на Радзіму. Але нягледзячы на той факт, што арцыпастыр знаходзіцца далёка, вера, малітва і агульны клопат вернікаў пра Касцёл Беларусі не дазваляюць аслабіць наша адзінства.**

*на старонцы* 5




# АСЦЯРОЖНА З РУЖАНЦАМ!

**Свет заўсёды імкнуўся да аўтаматызацыі працэсаў – прыдумляліся машыны і тэхнікі для выканання аднастайных дзеянняў. У Ружанцы, здаецца, няма паэтыкі, філасофіі, думкі. Ёсць сухі і безэмацыйны паўтор. Але гэта ўсё толькі на першы погляд.**

*на старонцы* 6

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

На ружанцы можна маліцца ў любы час, але месяц кастрычнік прыгадвае нам аб гэтай малітве асаблівым чынам праз свае характэрныя набажэнствы, якія часта пачынаюцца песняй "Завітай, Каралева Ружанца Святога".

Цяперашняя сітуацыя ў свеце, выкліканая жудаснай эпідэміяй каранавіруса, а таксама сацыяльна-палітычная сітуацыя ў нашай краіне і ў многіх нашых сем'ях, закранутых болем і няўпэўненасцю ў заўтрашнім дні, заклікае людзей мабілізавацца, каб выканаць просьбы Маці Божай, выказаныя ў фацімскім пасланні. Марыя шматразова паўтарала ў Фаціме: "Штодня маліцеся на ружанцы, каб выпрасіць мір для свету". Гэты заклік Марыі скіраваны да кожнага. Асабліва цяпер, калі не ведаем, як складзецца будучыня краіны, калі патрабуем братэрскага паяднання і жаданага спакою на вуліцах сваіх гарадоў.

Св. Ян Павел II вельмі часта падкрэсліваў, што Ружанец накіроўвае людскі позірк да Хрыста, робіць нас удзельнікамі міру ў свеце. "Маючы характар пастаяннай, супольнай просьбы, у адпаведнасці з заклікам Хрыста, што трэба заўсёды маліцца і не падаць духам (параўн. Лк 18, 1), ён дазваляе нам спадзявацца, што нават сёння такая цяжкая барацьба, як барацьба за мір, можа быць пераможнай" (Апостальскі ліст "Rosarium Virginis Mariae").

Няхай наша ружанцовая малітва стане вялікай дапамогай для сучаснасці, прынясе мір у свет, увядзе наша жыццё ў Божыя таямніцы, а таксама Бога – у наша жыццё.

кс. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**29 верасня**

***Свята святых арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала.***

*Вера ў існаванне анёлаў заснавана на Святым Пісанні, якое дае ім імёны і вызначае функцыі. Яны слугі і пасланнікі Бога. Арханёл Міхал ("хто ж як Бог?") з'яўляецца правадыром нябеснага войска, верных Богу анёлаў, абаронцам сяброў Бога, Божага Народа, а таксама апекуном Паўсюднага Касцёла і Касцёла ў Беларусі, які лічыць яго дапаможнікам у барацьбе з сіламі зла. Арханёл Габрыэль ("сіла Божая"), які сам сябе апісвае як таго, хто "стаіць перад Богам" (параўн. Лк 1, 19), з'яўляецца вестуном Божых аб'яўленняў. Арханёл Рафал ("Бог ацаляе") – адзін з сямі анёлаў, якія "ўваходзяць і служаць перад абліччам славы Пана" (Тоб 12, 15). Яго яшчэ называюць лекарам.*

**30 верасня**

***Успамін св. Гераніма, святара і доктара Касцёла.***

*Святы з'яўляецца заступнікам біблістаў, археолагаў, перакладчыкаў, а таксама вучняў і студэнтаў. Гэта незвычайная, захапляльная постаць, якая з'яўляецца прыкладам ідэальнага спалучэння веры і навукі, духоўнага і інтэлектуальнага жыцця. Св. Геранім дапамагае зразумець, што "няведанне Святога Пісання – гэта няведанне Хрыста".*

**1 кастрычніка**

***Успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус.***

*Тэрэза Марцін, якую таксама называюць Маленькай Тэрэзкай, нарадзілася ў 1873 годзе. Калі мела 15 гадоў, паступіла ў кляштар кармэлітак у Лізьё. Святую характарызавала пакора, евангельская прастата і вялікі давер да Бога. Яна ахвяравала сваё жыццё дзеля выратавання душ і за Касцёл. Памерла 30 верасня 1897 года.*

**2 кастрычніка**

***Успамін святых Анёлаў-ахоўнікаў.***

*Па наказе самога Бога яны ахоўваюць і абараняюць людзей. Ведаем таксама, што кожны з нас мае ўласнага Анёла-ахоўніка, які падтрымлівае на шляху да Неба.*

**5 кастрычніка**

***Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.***

*Хрыстос прызначыў с. Фаўстыну адказнай за распаўсюджванне культу Яго Міласэрнасці. Наказаў манахіні пісаць Дзённік, прысвечаны гэтай справе, адгаворваць навэнны, вяночкі і іншыя малітвы да Божай міласэрнасці.*

**7 кастрычніка**

***Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.***

*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай быў устаноўлены папам Піем V у памяць аб перамозе хрысціянскага флоту над турэцкай арміяй пад Лепанта 7 кастрычніка 1571 года, якая была вымалена праз Ружанец.*

# СКАРБ, ЯКІ ТРЭБА АДКРЫЦЬ

**Да ніводнай малітвы так не заахвочвала Маці Божая падчас сваіх аб'яўленняў, як да ружанцовай!**

*Кацярына Паўлоўская*

vatican.com

Ружанцовая малітва добра знаёма кожнаму з нас. Пацеркі на ланцужку можна часта ўбачыць і ў руках на выявах святых. Св. айцец Піо быў вялікім прамотарам ружанца, вельмі часта маліўся на ім. Тыя, хто быў са святым напрыканцы яго жыцця, сведчаць, што калі пастыр ужо не мог размаўляць, часта паказваў на ружанец і дадаваў: "Заўсёды, заўсёды...". Будучы яшчэ ў добрым стане, нярэдка паўтараў: "Любіце Марыю і старайцеся, каб Яе любілі. Заўсёды маліцеся Яе Ружанцам і рабіце дабро. Дзякуючы гэтай малітве д'ябал прамахнецца і будзе пераможаны, прычым назаўсёды. Гэта малітва да Той, якая трыумфуе над усім і над усімі".

Верагодна, кагосьці шматлікія паўтарэнні, пэўная манатоннасць гэтай малітвы можа знеахвочваць. Дарэчы, і некаторыя святыя не адразу адкрылі яе прыгажосць. Св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус у адным са сваіх лістоў пісала, што ёй вельмі цяжка даецца Ружанец. Аднак адзначала, што калі моліцца павольі, паўтараючы "Ойча наш" і "Вітай Марыя", то тады малітва захапляе яе і корміць душу нашмат болей, чым калі б яна малілася ў спешцы.

Як паказвае жыццё, набожнае адгаворванне Ружанца здольна прыносіць плён як у асабістым жыцці чалавека, так і ў маштабах свету! Цікава, што менавіта малітва на ружанцы суправаджала важныя грамадска-палітычныя працэсы ў шэрагу краін у ХХ стагоддзі. Між іншым, у Аўстрыі, Партугаліі, Польшчы і Бразіліі. Так у Аўстрыі ў 1947–1955 гадах праходзіла круцыята кампенсацыі і ўзнагароджання ў інтэнцыі міру ў свеце. Ініцыяваў яе францішканін а. Пётр Паўлічак, які быў таксама санітарам на заходнім фронце падчас Другой сусветнай вайны. Пасля жудасных ваенных падзей Аўстрыя не была вольнай краінай, а заставалася пад уплывам альянцкім і савецкім.

Цягам 8-мі гадоў частка жыхароў Аўстрыі, у тым ліку палітыкі, сярод якіх былі тагачасны канцлер краіны Юліус Рааб і міністр замежных спраў Леапольд Фігль, ахвяравалі Богу праз Марыю сваю штодзённую ружанцовую малітву. У 1955 годзе 500 тысяч аўстрыйцаў прымалі ўдзел у круцыяце. У выніку Аўстрыя стала адзінай пасляваеннай краінай, якую савецкая армія пакінула мірным шляхам праз падпісанне міжнароднага трактата. Міністр Леапольд Фігль вымавіў тады такія словы: "З удзячнасцю ўсемагутнаму Богу мы падпісваем гэты трактат і з вялікай радасцю абвяшчаем: Аўстрыя свабодная!".

Важнасць адгаворвання ружанцовай малітвы падкрэсліваў таксама тагачасны намеснік св. Пятра папа Пій XII. У 1951 годзе ў энцыкліцы аб адгаворванні Ружанца "Ingruentium malorum" ён напісаў: "Не вагаймася яшчэ раз публічна пацвердзіць, што маем вялікі давер да святога Ружанца як да сродка вылячэння зла, якое мучыць наш час".

Варта таксама ўзгадаць прыклад папы Яна Паўла II, які з'яўляецца нам вельмі блізкім. Святы Айцец бязмежна любіў ружанцовую малітву. "Ён увесь час браў гэты ружанец у рукі [...] для таго, каб перажываць яго таямніцы ў тых канкрэтных абставінах, у якіх знаходзіўся", – успамінае Павел Зухневіч, журналіст і аўтар кніг, прысвечаных св. Яну Паўлу II.

Папа вельмі часта маліўся на ружанцы, прычым не толькі прыватна: вёў гэтую марыйную малітву публічна. Ён дапамагаў вернікам глядзець на жыццё Езуса вачыма Марыі. Падкрэсліваў, што праз Ружанец мы разважаем з Маці Божай, з даверам ахвяруючы Ёй свае смуткі, клопаты, радасці і надзеі. У 1999 годзе ў Чанстахове (Польшча) Святы Айцец сказаў: "Як і ўсе мы, я прывык прыязджаць сюды і прыносіць Маці Божага Сына, нашай Маці, асабістыя і сямейныя справы, а таксама вялікія нацыянальныя справы, як гэта рабілі нашы продкі на працягу стагоддзяў".

У 2002 годзе папа Ян Павел II выдаў апостальскі ліст, прысвечаны Ружанцу – "Rosarium Virginis Mariae". У ім Пантыфік абвясціў 2003 год марыйным годам. Звяртаючы ўвагу на містычны характар Ружанца, прапанаваў дапоўніць яго таямніцамі, якія б адносіліся да публічнага жыцця Езуса Хрыста. Назваў іх Таямніцамі святла, бо мелі асвятляць дарогу жыцця хрысціяніна.

Ружанец – сапраўды вялікі скарб у жыцці Касцёла. Гэтая марыйная малітва вучыць сэрца правільнай пакоры. У ёй спалучаецца зварот да Бога праз Марыю, погляд на жыццё Езуса з перспектывы штодзённасці чалавека, які трымае гэтыя маленькая пацеркі ў руках.

**У некаторых святынях у Гродне трывае штодзённая марыйная малітва ў інтэнцыі Беларусі. У катэдральным і францішканскім касцёлах у 18.00–19.00 моладзь праводзіць Ружанец з разважаннямі. Вернікі таксама моляцца Ружанцам пасля вячэрняй св. Імшы ў 19.00 у пабрыгіцкім касцёле і ў парафіі на Вішняўцы.**

# “НЕ МЕСЦА ДЛЯ ВЫПАДКОВЫХ ЛЮДЗЕЙ”, АБО НАСТАЎНІК ЯК СВЕТАЧ

працяг са с. 1

**Пра важнасць ролі настаўніка і яго ўзаемаадносіны з маладым пакаленнем разважаюць выкладчыкі і іх студэнты.**

*Ангеліна Марцішэўская*



**Людміла Гапонік**
*выкладчыца англійскай мовы ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі*

*У сферы адукацыі я ўжо больш за 45 гадоў. У мінулым працавала настаўніцай, метадыстам у Гродзенскім аддзеле народнай адукацыі. Выкладанне англійскай мовы з’яўляецца для мяне выдатным спалучэннем працы і хобі, да таго ж я вельмі люблю служэнне моладзі. Мае ўрокі прадугледжваюць актыўнае камунікаванне, і я намагаюся развіваць гэты навык у вучняў, каб маглі весці дыялог на замежнай мове, выказваць сваё меркаванне, атрымліваць новую інфармацыю.*

*На працягу апошніх 12-ці гадоў працую ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. Падыход у выкладанні сярод семінарыстаў моцна адрозніваецца – існуюць свае нюансы. Перадусім у семінарыі сабраны сур’ёзныя маладыя людзі, матываваныя на вучобу. Тут не ўзнікае ніякіх пытанняў з дысцыплінай – заняткі заўсёды праходзяць у спакойнай атмасферы. Аднак мне спатрэбілася шмат часу, каб зразумець галоўную сутнасць выкладання замежнай мовы ў духоўнай навучальнай установе. Я імкнуся данесці да іх, што валоданне англійскай мовай важна для кожнага чалавека, а для святароў нават першачаргова, бо яны шмат перамяшчаюцца, ездзяць на місіі і маюць заданне данесці Божае слова да як мага большай колькасці людзей. Я вучу клерыкаў арыентавацца ў чытанні Евангелля па-англійску і развіваць здольнасць камунікавання, выкарыстоўваючы базавую граматыку. Праца ў семінарыі прыносіць мне шмат задавальнення, бо натхняюць адказнасць і мэтанакіраванасць студэнтаў.*

*На мой погляд, сапраўдны настаўнік – гэта, у першую чаргу, прафесіянал сваёй справы, які з павагай ставіцца да вучняў, раздзяляе іх інтарэсы, разумее іх і патрабуе разумення ў адказ, хто любіць свой прадмет і выклікае такую ж любоў да яго ў іншых. Настаўнік павінен быць побач з вучнямі і адначасова на крок наперадзе, каб весці за сабой. А галоўнае яго заданне – даць глыбокія, шырокія, рэальныя веды і навучыць выкарыстоўваць іх у будучым жыцці. Гэта мой метад, і ён правераны гадамі.*

*Часам здаецца, што праца настаўніка – гэта адзін суцэльны кур’ёз. Ты не ведаеш, што цябе чакае: з якім настроем вучні прыйшлі на занятак, чаго хочуць або не хочуць ад цябе. Здараюцца камічныя выпадкі і ў семінарыі. Аднойчы мне было вельмі смешна, калі алюмны падрыхтавалі экзаменацыйную ведамасць для дыферэнцыраванай справаздачы са сваімі прозвішчамі і напрыканцы падпісалі выкладчыка: “ксёндз Людміла Гапонік”.*

*Увогуле, лічу, калі настаўнік веруючы чалавек, яму лягчэй зразумець вучня, лягчэй прабачыць яго памылкі. Прасцей ставіцца да дзіцячай упартасці, гарэзлівасці і разумець, што насупраць цябе такі ж чалавек, які патрабуе пашаны. Настаўнік-хрысціянін разумее, памыляцца могуць абодва бакі, таму здольны прызнаваць аблуды і рабіць высновы, каб рухацца далей. Мне здаецца, калі асоба працуе ў сферы адукацыі, яна апрыёры павінна быць максімальна прыбліжана да хрысціянскага светапогляду. Бо яе задача – сеяць разумнае, добрае, вечнае, а пра гэта мы чытаем у Святым Пісанні.*

*На мой погляд, настаўнікі мусяць быць аб’яднаны імкненнем паказаць прыгожыя бакі жыцця, даць разуменне цудоўнага. Бо ўсё дрэннае часам пакажа вуліца, тэлебачанне. І гэта можа пазбавіць дзяцей разумення прыгожага. Мой бацька любіў паўтараць: бачыш добрае – распавядзі пра гэта, а пра благое і так усе ведаюць. Важна таксама нястомна развівацца самому: бо як можа вучыць той, хто не вучыцца сам?*

*На жаль, у навучальных установах ёсць і выпадковыя людзі... І тут трэба памятаць, што настаўніцкая праца з’яўляецца, найперш, служэннем дзецям і моладзі, сумленнай работай з імі. Калі я думаю пра плён уласнага служэння – гэта перамогі маіх вучняў у раённых, абласных і рэспубліканскіх алімпіядах. Таксама вельмі шчаслівая, калі яны самі пачынаюць выкладаць англійскую мову або выкарыстоўваюць свае веды ў іншых краінах свету. Асабліва цешуся, калі разумею, што валоданне мовай дапамагло маім студэнтам знайсці сваё месца ў свеце.*



**Юлія Сацкевіч**
*студэнтка 5 курса Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта*

*Каб жылі ў паралельным сусвеце, важнейшымі рысамі, якімі павінен валодаць выкладчык, лічыла б уменне ставіць 10 і адпускаць з заняткаў як мага раней. Калі ж сур’ёзна, мяркую, што для настаўніка галоўнае прафесіяналізм, любоў да сваёй работы, цярплівасць, уменне знайсці падыход да кожнага студэнта, наколькі гэта магчыма.*

*Лічу, што задача выкладчыка заключаецца таксама ў тым, каб зацікавіць студэнта да вывучэння прадмета, адказаць на незразумелыя пытанні, зыходзячы са сцверджання, што бязглуздых пытанняў быць не можа. Вельмі важна навучыць студэнтаў прымяняць атрыманныя веды на практыцы.*

*У той жа час адносіны паміж выкладчыкамі і студэнтамі павінны будавацца на ўзаемапавазе, добразычлівасці і захаванні субардынацыі. Немалаважным элементам у гэтых узаемаадносінах павінна быць малітва. Малітва за настаўнікаў важная, таму што праца з людзьмі заўсёды з’яўляецца складанай, і духоўная падтрымка будзе ім дапамогай.*

*Давайце прасіць у Бога аб мудрасці і цярплівасці для выкладчыкаў, каб яны выконвалі ролю верных праваднікоў для маладых людзей.*



**Святлана Куль-Сяльверстава**
*доктар гістарычных навук, прафесар*

*За плячыма маю 40-гадовы досвед служэння ў сферы адукацыі. За гэты час зразумела: няма рэцэпта працы з навучэнцамі. Многае залежыць ад сітуацыі. Для адных трэба быць маці, для другіх – старэйшай сястрой, для трэціх – сяброўкай. Пры тым гэтая пазіцыя ў стасунку да канкрэтнага навучэнца можа змяняцца з часам. У мяне ёсць вельмі блізкія сябры, з якімі дзялюся нават сваімі асабістымі праблемамі і якія некалі былі маімі студэнтамі. Адзінае, чаго нельга дапускаць – пагарды, непавагі. Недапушчальна “станавіцца на катурны” і з вышыні глядзець на навучэнцаў.*

*Важна таксама быць на адной хвалі са студэнтамі і ўмець пасмяяцца разам з імі. Можа, найбольш смешны выпадак у маёй практыцы здарыўся гадоў дваццаць таму. Я звычайна жартавала са студэнтамі на 1 красавіка. Магла, напрыклад, абвясціць аб пазачарговай пісьмовай рабоце на ацэнку, а першым пытаннем было: “Які сёння дзень?”. Ну і яны пару разоў жартавалі ў адказ. Аднойчы даслалі тэлеграму: “Тэрмінова выязджайце ў Швецыю для атрымання прэміі. Нобель”.*

*Жыццё прымусіла мяне быць амаль універсальным выкладчыкам, бо я выкладала і маю публікацыі па мінімум 8-мі спецыяльнасцях, якія вельмі адрозніваюцца паміж сабой: гісторыя, культуралогія, мастацтвазнаўства, педагогіка, эканоміка і менеджмент, лясныя навукі, права, этналогія. З аднаго боку, гэта вялізная праца, бо самой увесь час трэба вучыцца, засвойваць непамерныя аб’ёмы матэрыялу, каб не прафаніраваць курс, які выкладаеш. З другога ж, узнікае сінергетычны эфект, бо міждысцыплінарныя сувязі даюць часам больш глыбокае разуменне кожнай з дысцыплін.*

*Маючы досвед выкладання розных прадметаў, можна разважаць і пра тое, што агульнага павінны мець настаўнікі. Падаецца, што, апрача карпаратыўнай салідарнасці ды павагі да вучняў і сваёй справы, усіх выкладчыкаў павінна аб’ядноўваць сумленнасць. Прытым сумленнасць адносна ўсіх бакоў жыцця. Я больш чым упэўнена, што настаўнікі, якія не праявілі сумленнасць у сёлетняй выбарчай кампаніі, несумленныя і ў настаўніцкай дзейнасці. Не можа такі чалавек ставіць справядлівыя адзнакі дзецям, прызнаваць свае памылкі і папраўляць іх перад вучнямі; не можа з імі дыскутаваць і адстойваць слушнасць уласных думак. Ён сам сабе аднойчы здрадзіў, дык як вучыць быць сумленнымі іншых?*

*Разам з тым, у святле апошніх падзей у Беларусі настаўнікі пачалі масава падвяргацца крытыцы. Сумленным стала складана не згубіцца ў агульнай массе і адстаяць добрае імя. У такім выпадку варта шукаць падтрымкі ў бацькоў, вучняў, у грамадства. Быць актыўным у грамадскіх ініцыятывах і ў медыях. Самім ініцыяваць нешта карыснае, каб побач былі паплечнікі. Зразумела, тут патрэбна мець нязломны характар. Не кожны вытрымае. Я сама праз гэта прайшла. А інструкцыю, як быць годным настаўнікам і браць на сябе адказнасць за маладое пакаленне, можна знайсці ў славутага педагога Януша Корчака.*



**Кл. Андрэй Юхнік**
*навучэнец 5 курса Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі*

*Справа перадачы ведаў, як у старажытным свеце, так і сёння, з’яўляецца вельмі важнай. На маю думку, выкладчык павінен любіць тое, што робіць. Павінен не проста даносіць інфармацыю да розуму вучняў, але ўкладаць душу ў гэтую справу. Выкладчык мусіць разумець сваіх вучняў, іх патрэбы і магчымасці, і адпаведна з імі ад вучняў патрабаваць. Вельмі важна не проста чаму-небудзь навучыць, але і паказаць, як гэтыя веды могуць спатрэбіцца ў жыцці, як іх рэалізаваць на практыцы.*

*Мне здаецца, галоўная рыса, якая павінна быць уласціва выкладчыкам, – сумленнасць, справядлівасць. Кожны настаўнік мусіць прыводзіць сваіх вучняў да праўды, таксама як гэта рабіў наш Найвышэйшы Настаўнік, Езус Хрыстус. Разам з тым, самае простае і відавочнае, што патрабуецца ад настаўніка – быць заўсёды падрыхтаваным да заняткаў. Гэтая якасць выцякае з усведамлення адказнасці выкладчыка за навучанне наступнага пакалення.*

*Каб працэс навучання прынёс добры плён, абодва бакі – і настаўнік, і вучань – павінны прытрымлівацца пэўных правіл. Мне здаецца, для сапраўды якасных вынікаў неабходна супрацоўніцтва. Адказнасць ляжыць не толькі на настаўніку, але таксама і на вучню, незалежна ад таго, усведамляе ён гэта ці не. У адваротным выпадку паўстае пытанне: “ці ж аднаму толькі настаўніку гэта трэба?”. З абодвух бакоў павінна прысутнічаць пашана: вучня – да працы настаўніка, а настаўніка – да стараннаў вучня. Тут вельмі важна не быць абыякавым адзін да аднаго. У маім асяроддзі навучанне мае спецыфічны характар: амаль усе выкладчыкі з’яўляюцца святарамі, якія па сутнасці рыхтуюць нас як сваіх патэнцыяльных супрацоўнікаў. Менавіта гэты факт таксама мабілізуе і выкладчыкаў, і нас, семінарыстаў, да таго, каб навучанне было плённым.*

*Упэўнены, быць настаўнікам – вельмі цяжкая праца. Часам мы нават не ўяўляем, якое яно – “ярмо” настаўніка. Але калі сам крыху дакранешся да гэтай справы, тады пачынаеш разумець усю яе адказнасць і цяжар. Я з гэтым сутыкнуўся, праводзячы ўрокі катэхезы для дзяцей і моладзі. Такая практыка дапамагла зразумець, што быць настаўнікам – такое ж пакліканне, як і быць святаром. У пэўным значэнні настаўнік, перадаючы веды, таксама служыць іншым людзям. Менавіта таму, перш чым у той ці іншай сітуацыі паставіцца з асуджэннем да выкладчыка, варта паглядзець на сітуацыю з двух бакоў. Усе людзі розныя, з рознымі поглядамі і магчымасцямі.*

*У той жа час мы як хрысціяне не павінны забывацца пра малітву за сваіх настаўнікаў і выкладчыкаў. Трэба памятаць аб іх працы і намаганнях, а таксама прасіць аб святле Святога Духа як для іх, так і для сябе, кожны дзень даручаць сваю навуку Богу. Менавіта прыкладанне ўласных намаганняў да дзеяння Божай ласкі дае самы эфектыўны вынік у справе навучання.*

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Пантыфік звернецца да ААН з пасланнем

З нагоды 75-годдзя Арганізацыі Аб’яднаных Нацый папа Францішак выступіць з відэазваротам перад Генеральнай Асамблеяй у Нью-Ёрку.

Святы Айцец ужо выступаў на форуме ААН падчас свайго візіту ў ЗША ў верасні 2015 года. Менавіта тады ён заклікаў да большага ўплыву Арганізацыі на краіны, якія знаходзяцца на шляху развіцця. Пантыфік таксама заявіў, што міжнародныя фінансавыя структуры абавязаны абараняць слабыя дзяржавы ад “удушлівага падпарадкавання крэдытным сістэмам”.

75-я Генеральная Асамблея ААН пачалася 14 верасня бягучага года і працягнецца да пачатку кастрычніка.

### Арганізатары Сусветнага хрысціянскага форуму склікалі сход

У сустрэчы Камітэта аб’яднання, якое прадстаўляе хрысціянскія канфесіі ўсяго свету, прынялі ўдзел 29 чалавек. Святы Пасад прадстаўляў кс. Анджэй Харамански, супрацоўнік Папскай рады па справах спрыяння хрысціянскаму адзінству. Адна з найбліжэйшых мэт форуму – выявіць лідараў сярод моладзі.

Сусветны хрысціянскі форум (Global Christian Forum) – ініцыятыва Экуменічнай рады Цэркваў. Першы сусветны форум прайшоў у 2007 годзе ў Кеніі, другі – у 2011 годзе ў Інданезіі, трэці – у 2018 годзе ў Калумбіі.

### Абвешчана дата беатыфікацыі заснавальніка сальватарыянаў

15 мая 2021 года пройдзе беатыфікацыя кс. Францішка Марыі ад Крыжа (Ёгана Батысты Ёрдана), заснавальніка Таварыства Боскага Збаўцы і кангрэгацыі Сясцёр Боскага Збаўцы.

Працэс беатыфікацыі нямецкага святара распачаўся ў 1942 годзе. У 2011 годзе папа Бенедыкт XVI ухваліў дэкрэт аб прызнанні гераічнасці яго цнотаў, а 20 чэрвеня бягучага года папа Францішак ухваліў дэкрэт аб прызнанні цуда, здзейсненага праз заступніцтва гэтага руплівага пастыра і місіянера.

У Беларусі сальватарыяне працуюць у Віцебскай дыяцэзіі.

### Выйшла аэраграма ў гонар мучанікаў і герояў пандэміі

Ватыканскі філатэлістычна-нумізматычны аддзел выпусціў паштовыя знакі, прысвечаныя галоўным падзеям у жыцці Касцёла і свету ў 2020 годзе.

Асаблівай тэмай стала барацьба з пандэміяй каранавіруса. Ёй была прысвечана аэраграма – ліст тонкай паштовай паперы, які складаецца так, што знешні бок ліста ўтварае канверт. На ёй змешчана выява ўрача, санітаркі і святара, якія схіліліся над хворым, а таксама надпіс на італьянскай мове: “I martiri e gli eroi del coronavirus” (“Мучанікі і героі каранавіруса”).

## Малітоўныя інтэнцыі на кастрычнік

### паўсюдная

Молімся, каб моцай хросту свецкія вернікі, асабліва жанчыны, актыўней дзейнічалі ва ўстановах, адказных за Касцёл.

### дыяцэзіяльная

Молімся аб новых святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях, а таксама за нашу Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю.

# АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ ЗВЯРНУЎСЯ ДА КАТОЛІКАЎ БЕЛАРУСІ

працяг са с. 1


Момант удзялення біскупскага пасвячэння



Кс. Юрый Марціновіч

16 верасня ў Соліне (Харватыя) адбылося біскупскае пасвячэнне новапрызначанага Апостальскага нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Антэ Ёзіча. Падчас урачыстасці іерарх звярнуўся са словамі прывітання да духавенства і вернікаў Касцёла ў Беларусі, які цяпер перажывае складаныя часы.

Апостальскі нунцый паабяцаў сваё малітоўнае супрацоўніцтва для вырашэння ўсіх праблем краіны "з дапамогай міру, дыялогу і салідарнасці, пазбягаючы любога насілля". "Малюся да Панны Марыі, каб заўсёды натхняла вас, дапамагала ў цяжкія моманты вашага жыцця", – сказаў іерарх.

Папа Францішак прызначыў арцыбіскупа Антэ Ёзіча Апостальскім нунцыем у Беларусі 21 мая. Ён змяніў на пасадзе венгерскага арцыбіскупа Габара Пінтэра, які быў скіраваны на дыпламатычную службу ў Гандурас.

Біскупскае пасвячэнне Апостальскага нунцыя адбылося ў нядаўна пабудаваным санктуарыі Маці Божай Астраўной. Яго ўдзяліў Дзяржаўны Сакратар Яго Святасці папы Францішка кардынал П'етра Паралін.

**Арцыбіскуп Антэ Ёзіч – другі харвацкі іерарх на пасадзе Апостальскага нунцыя ў Беларусі. У 2004–2011 гадах дыпламатычную місію Апостальскай Сталіцы ў краіне ўзначальваў арцыбіскуп Марцін Відавіч, які таксама належаў да Спліцка-Макарскай архідыяцэзіі.**

**Новы Апостальскі нунцый карыстаецца, акрамя роднай харвацкай, таксама італьянскай, англійскай, іспанскай, французскай, партугальскай, нямецкай, кітайскай, рускай і польскай мовамі.**

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**АЎСТРАЛІЯ.** Пачатковыя каталіцкія школы вырашылі знізіць плату за навучанне дзяцей. Гэта частка 3-гадовага плана садзейнічання развіццю рэлігійнай адукацыі ў краіне. Зніжка ўведзена для дапамогі сем'ям, якія найбольш пацярпелі ад пандэміі каранавіруса. Згодна з планам, школы зніжаюць плату на 500 аўстралійскіх даляраў за вучня. Таксама плануецца спрасціць сістэму платы за навучанне.

**ПАРТУГАЛІЯ.** Біскупы не згаджаюцца з планам улад Санктуарыя Маці Божай Ружанцовай у Фаціме адносна звальненняў яго працаўнікоў. У выданым камунікаце іерархі падкрэсліваюць, што фінансавыя праблемы санктуарыя не могуць быць важнай падставай для гэтага. План вынікае з рэзкага падзення ахвяраванняў, калі месца марыйнага культу было закрыта з сярэдзіны сакавіка да канца мая ў сувязі з пандэміяй. Разглядаецца звальненне каля 50-ці з 300 працаўнікоў.

**ПАКІСТАН.** Вучоныя з універсітэта Балтыстана ў Скарду выявілі ў Гімалаях-Каракорум вялікі мармуровы крыж памерам 183×213 см, які важыць ад 3-ох да 4-ох тон. Гэта адзін з самых вялікіх крыжоў, знойдзеных на Індыйскім субкантыненце. Ён быў названы па назве бліжэйшай вёскі – "Крыж з Каварда". Па папярэдніх ацэнках, рэліквія датуецца прыкладна 1000-1200 гадамі. Пакістанскія вучоныя абвясцілі, што будуць супрацоўнічаць з еўрапейскімі і амерыканскімі навучальнымі ўстановамі, каб выявіць дакладны ўзрост крыжа.

**КАНАДА.** Невядомыя злачынцы выкралі з сабора св. Кацярыны Александрыйскай у Антарыа табернакль з кансэкраванымі гостыямі. На наступны дзень ён, разбураны і пусты, быў знойдзены парафіянамі ў канале Уэленд у Цэнтральным парку. Кансэкраваныя гостыі не адшуканы. Вернікі спадзяюцца, што яны растварыліся ў вадзе, дзе быў знойдзены табернакль.

**ЭФІОПІЯ.** З канца чэрвеня ў рэгіёне Аромія забіта каля 500 хрысціян, у тым ліку цяжарных жанчын, дзяцей і цэлых сем'яў. За зверскай агрэсіяй стаяць мусульманскія экстрэмісты. Відавочцы распавядаюць, што ў многіх выпадках нападаў на мірных жыхароў міліцыя пасіўна назірала, ні на што не рэагуючы. Хрысціяне заклікаюць пасольствы Эфіопіі ў розных краінах неадкладна спыніць гвалт, які адбываецца ў цяперашні час у Аромii.

**ФРАНЦЫЯ.** Пасля перапынку з-за пандэміі аднавіла сваю дзейнасць Незалежная камісія па сексуальных злоўжываннях у Касцёле пасля 1950 года. Два гады таму епіскапат вырашыў даручыць даследаванне гэтага пытання свецкім асобам, не звязаным з іерархіяй, каб такім чынам ясна засігналізаваць аб тым, што Касцёл адназначна дыстанцуецца ад узмоцненай хвалі злоўжыванняў, якая адбывалася ў другой палове XX стагоддзя. Камісію ўзначаліў Жан-Марк Сове, адзін з самых вопытных юрыстаў Францыі.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## КАТАЛІЦКАЯ ГРОДЗЕНШЧЫНА

*Пачынаем цыкл публікацый, прысвечаных гісторыі каталіцкіх парафій Гродзеншчыны. Будзем паволі рухацца ад Гродна ў розныя бакі і даведвацца самае цікавае не толькі пра парафіі, але і пра населеныя пункты, дзе яны размяшчаюцца.*

# ПАРАФІЯ Ў ГОЖЫ

Андрэй Вашкевіч

Вёска Гожа адносіцца да ліку найбольш старадаўніх населеных пунктаў на тэрыторыі сучаснага Гродзенскага раёна. Археалагічныя матэрыялы сведчаць аб існаванні паселішча каля сутокаў рэчак Гожкі і Нёмана ўжо ў XIII стагоддзі, аднак першая дакладная згадка аб Гожы адносіцца да 1385 года.

У "Апісаннях літоўскіх дарог", якія складаліся крыжакамі з мэтай пракладвання найбольш зручных маршрутаў для паходаў на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, згадваецца населены пункт "Ussa" або "Vsa", каля якога крыжацкія атрады бродам перапраўляліся праз Нёман і правым берагам ракі ішлі да Горадзена. Менавіта так у перакладзе на старанямецкую мову гучала назва Ожы, старажытнага паселішча над Нёманам.

Парафія была створана згодна з прывілеем вялікага князя літоўскага Казіміра ў 1492 годзе, дзеля духоўных патрэб жыхароў вялікіх абшараў па абодвух берагах Нёмана. На яго загадзе тут быў пабудаваны касцёл св. апостала Паўла. Гэты прывілей у 1494 годзе падцвердзіў вялікі князь Аляксандр. Тэрыторыя парафіі ахоплівала землі, населеныя пераважна балтамі або іх славянізаванымі нашчадкамі. Назву мястэчка Ожа некаторыя даследчыкі выводзяць ад літоўскага "ožys" – дзікі казёл, касуля, а некаторыя – ад балцкага слова "ąžuolas" – дуб, паколькі на берагах Нёмана ў пачатку Сярэднявечча было шмат дуброў, даўно высечаных першымі пасяленцамі Гродзеншчыны.

Парафія ў Ожы была вельмі вялікая па памерах і мела значныя ўладанні па-за Нёманам. На левым беразе ракі, там, дзе сёння ляжыць вёска з аднайменнай назвай, знахозіўся надзел Монькавічы, або Монькаўцы. У пушчы парафіі былі нададзены 7 рыбных азёр каля цяперашняй вёскі Калеты, якія мелі назвы Кавеня, Яндрэня, Чорнае, Доўгае, Круглячак, Вензовец і Ночвідак. Прыкладна ў гэты час Ожа атрымала статус мястэчка і пераўтварылася ў цэнтр Ожскага павета. Павет размяшчаўся па абодва бакі Нёмана, вузкай паласой цягнуўся на паўночны захад аж да прускай мяжы, на поўдні межаваў з Гродзенскім паветам (паводле матэрыялаў валочнай памеры 1561 года, мяжа Гродзенскага і Ожскага паветаў праходзіла на поўнач ад вёскі Зарыца). Межы павета ў цэлым супадалі з межамі Ожскай Рымска-каталіцкай парафіі. На поўдзень ад яго жыло пераважна праваслаўнае насельніцтва, таму некаторыя даследчыкі лічаць, што мяжа Ожскага і Гродзенскага паветаў адпавядала славяна-літоўскай этнаграфічнай мяжы канца XV стагоддзя.

У 1655 годзе, падчас вайны паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскім царствам, Ожа была спалена маскоўскім войскам. Тады згарэў і старадаўні касцёл. Адбудоўваць мястэчка пачалі не на першапачатковым месцы – на ўзвышшы на поўдзень ад Гажанкі, а крыху на поўнач. З паўстаннем новага касцёла звязана легенда аб тым, што мясцовая жыхарка схавала ў кустах ікону Маці Божай са спаленага касцёла, і менавіта ў тым месцы з'явілася Панна Марыя і папрасіла тут збудаваць новы касцёл.

Ушчэнт разрабаванае і панішчанае вайной мястэчка Сойм 1662 года прызначыў у якасці кампенсацыі шляхце, якая паўцякала з адышоўшага да Маскоўскага царства Смаленскага ваяводства. Нягледзячы на тое, што з гэтага часу Гожа з'яўлялася звычайнай вёскай, яна працягвала заставацца рэлігійным цэнтрам ваколіцы. У 1715 годзе пры плябаніі касцёла існавала школа, дзе навучаліся некалькі дзяцей. Паводле інвентара 1838 года, Гожскай парафіі належала 210 дзесяцін зямлі, некалькі сялянскіх двароў у вёсцы Барбарычы і фальварак Плябанішкі з млыном на рэчцы Лешніцы і сукнавальняй. 8 чалавек служылі пры касцёле (прачкі, кучар, кухар), 3 – пры касцёльнай багадзельні.


Цуд у Гожы, 1915 г.


У 2019 г. адзначалася 150-годдзе асвячэння мясцовага касцёла

Касцёл свсв. Пятра і Паўла быў пабудаваны ў пачатку 1860-х гадоў па праекце гродзенскага архітэктара Якуба Фардона – бацькі Слугі Божага а. Мельхіёра Фардона. Гэты касцёл, які захаваўся да сённяшняга дня, – ужо трэцяя святыня ў Гожы. На месцы другога касцёла, які існаваў у XVII–XIX стагоддзях, цяпер гожскае лясніцтва. Там знаходзіцца надмагільная пліта роду Сільвестровічаў – шматгадовых уладальнікаў Гожы.

Наступны цуд адбыўся ў Гожы ў лютым 1915 года. Нямецкія войскі разграмілі ў аўгустоўскіх лясах корпус расійскай арміі і падышлі да фартоў Гродзенскай крэпасці. Моцныя баі разгарэліся за пераправу праз Нёман каля Гожы. На званіцы касцёла рускія салдаты абсталявалі назіральны пункт, каб каардынаваць агонь сваёй артылерыі. Немцы абстралялі касцёл, і ён загарэўся. Тады над палаючай святыняй з'явілася Маці Божая, зняла свой плашч і накінула яго на будынак. Касцёл быў выратаваны і дасюль цешыць сваім выглядам парафіян і ўсіх, хто праязджае побач па дарозе з Гродна да Друскінінкая.

# АРЦЫБІСКУП ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ: "ГЭТЫ КРЫЖ Я ПРЫМАЮ З ПАКОРАЙ"

працяг са с. 1

**У сённяшнім нумары "Слова Жыцця" арцыбіскуп звяртаецца да вернікаў з пастырскім словам, а таксама разважае над тым, як мы, хрысціяне, павінны паводзіць сябе ў сітуацыі грамадска-палітычнага крызісу, які зараз пануе ў Беларусі.**

Рэдакцыя



Падчас св. Імшы ў санктуарыі Маці Божай у Шылуве (Літва)

**– Ваша Эксцэленцыя, мінуў ужо не адзін тыдзень ад таго моманту, калі Вам было адмоўлена ва ўездзе ў Беларусь. Скажыце, калі ласка, што зараз адчуваеце, калі не можаце ў поўнай меры працягваць сваё служэнне і кіраваць Касцёлам у Беларусі?**

– Вашы пытанні прыйшлі на свята Узвышэння Святога Крыжа. Гэта вельмі сімвалічна. Езус сказаў, што хто хоча ісці за Ім, няхай возьме свой крыж і нясе яго. Сёння па незалежных ад мяне прычынах я не магу ўпоўні выконваць свае пастырскія абавязкі як Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, а таксама старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Гэта крыж, які прымаю з пакорай як Божую волю. Малюся, каб лепш пазнаць яе. Буду несці гэты крыж столькі, колькі патрэбна, з верай, што з яго нарадзіцца дабро.

**– 29 верасня ў Касцёле адзначаецца свята святых арханёлаў Міхала, Рафала і Габрыэля. Св. Міхал з'яўляецца апекуном Беларусі. Фігура Князя нябеснага войска зараз здзяйсняе перэгрынацыю па катэдрах Беларусі. Вернікі і духоўныя асобы моляцца аб мірным вырашэнні грамадска-палітычнага крызісу ў краіне і ў інтэнцыі Вашага вяртання на Радзіму. Наколькі важна, каб у гэты неспакойны час нашай зброяй з'яўлялася Евангелле і малітва?**

– Кажуць, што калі Сталіну сказалі пра Ватыкан, ён спытаўся, колькі той мае танкавых дывізій. Зброяй Касцёла з'яўляюцца не танкі, самалёты, ракеты і да т. п., а Евангелле і малітва. Езус заклікае да сталай ды трывалай малітвы і запэўнівае: "Маліцеся і вам будзе дадзена".

Гісторыя паказвае, што малітва можа "прабіць" нябёсы. У часы атэізму, калі здавалася, што са смерцю апошняга святара з карты Беларусі знікне Касцёл, людзі маліліся аб свабодзе веравызнання, і яна прыйшла. Сёння, падчас небывалага дагэтуль у нашай краіне грамадска-палітычнага крызісу, Касцёл заклікае да малітвы, бо верыць у яе моц.

Евангелле з'яўляецца дарожнай картай чалавека і кнігай жыцця. Каб у дарозе не заблукаць, мы карыстаемся картай (у наш час, можа, часцей GPSам). Таму ў сваім жыцці павінны як мага часцей звяртацца да Евангелля, якое заклікае да навяртання і малітвы. Гэта шлях да вырашэння крызісу, у якім аказалася наша Бацькаўшчына.

Св. Міхал Арханёл з'яўляецца пераможцам злога духа. А прычынай любога зла з'яўляецца грэх. Перэгрынацыя фігуры св. Міхала Арханёла, якая праходзіць у нашых катэдрах, – гэта знак веры ў яго апеку і моц. Заахвочваю ўсіх прымаць удзел у перэгрынацыі і маліцца да нашага апекуна, каб паспрыяў хутчэйшаму мірнаму вырашэнню грамадска-палітычнага крызісу.

**– 13 верасня падчас малітвы "Анёл Панскі" папа Францішак звярнуў увагу на з'яву грамадскіх пратэстаў, што назіраюцца ў многіх частках свету. Пантыфік заклікаў дэманстрантаў мірна выказваць пра свае праблемы, не паддаючыся спакусе агрэсіі і гвалту, а дзяржаўныя ўлады – прыслухацца да голасу суграмадзян і пайсці насустрач іх законным імкненням, забяспечваючы поўную павагу да правоў чалавека і грамадзянскіх свабод. Святы Айцец не назваў канкрэтных краін, але сказанае ім, напэўна, можна аднесці да сучаснай сітуацыі ў Беларусі? Чаму нам усім неабходна працаваць на карысць дыялогу і прымірэння?**

– Яшчэ св. Ян Павел II казаў, што прымірэнне будуе, а ненавісць руйнуе. А старая прыказка сцвярджае: "Благі мір лепшы, чым добрая вайна". Калі паміж людзьмі з'яўляюцца спрэчкі і непаразуменні, то найлепшы метад іх вырашэння – дыялог. Нават свецкія суды заклікаюць канфліктуючыя бакі пайсці на міравую, дамовіцца і такім чынам вырашыць праблему.

Ад самага пачатку грамадска-палітычнага крызісу Касцёл у Беларусі заклікаў усе яго бакі да дыялогу і прымірэння. Я вельмі рады таму, што Святы Айцец раздзяляе нашу пазіцыю.

**– Эксцэленцыя, Вы зараз знаходзіцеся далёка, але няспынна клапоціцеся аб будучыні нашага Касцёла. Скіруйце, калі ласка, некалькі слоў да вернікаў, якія духоўна падтрымліваюць Вас і з нецярпеннем чакаюць дня, калі ізноў змогуць прывітаць на беларускай зямлі.**

– Дарагія Браты і Сёстры! Сардэчна дзякую за Вашы малітвы і салідарнасць са мной. Для мяне гэта вялікая падтрымка падчас новых выпрабаванняў. Гэта таксама сведчанне таго, што хоць мы раздзелены фізічна, але духоўна аб'яднаны.

Кожны дзень я малюся ў Вашых інтэнцыях і за ўмілаваны Касцёл у Беларусі. Заставаймася з'яднанымі ў малітве падчас нашых супольных цяжкасцей, памятаючы аб словах Хрыста, што шчаслівыя тыя, каго праследуюць за справядлівасць. Будзьце моцнымі сваёй верай, любіце кожнага чалавека і жывіце надзеяй на мірнае і шчаслівае вырашэнне сучаснага крызісу, каб ізноў наша Бацькаўшчына была крайнай міру, талерантнасці і ўзаемапавагі.

З верай у шчаслівае і мірнае вырашэнне крызісу і хуткую сустрэчу ад усяго сэрца ўсіх Вас блаславіляю ў імя Айца + і Сына, і Духа Святога.



Мітрапаліт прыбыў на ўрачыстасць у Шылува па запрашэнні біскупаў Літвы

# СПРАВАЙ АРЦЫБІСКУПА КАНДРУСЕВІЧА ЗАЙМАЕЦЦА СВЯТЫ ПАСАД

**Святы Пасад умяшаўся ў справу арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, якому беларускія ўлады не дазваляюць вярнуцца ў Беларусь і анулявалі пашпарт. Дадзеную інфармацыю пацвердзіў Дзяржсакратар Яго Святасці папы Францішка кардынал П'етра Паралін.**

Ватыканскае радыё

Кіраўнік ватыканскай дыпламатыі дадаў, што гэтаму таксама спрыяў візіт у Мінск Сакратара па сувязях Святога Пасада з дзяржавамі арцыбіскупа Пола Рычарда Галахера, хоць яго дакладныя вынікі яшчэ невядомыя. "У любым выпадку мы настойваем на тым, каб арцыбіскуп мог вярнуцца ў архідыяцэзію і працягваць кіраваць сваёй паствай", – сказаў іерарх. У той жа час ён зазначыў, што Касцёл заўсёды павінен быць "стымулам дыялогу, згоды і міру".

Падчас сустрэч з арцыбіскупам Галахерам прадстаўнікі ўлад аднавілі запрашэнне Пантыфіку прыехаць у Беларусь. "Беларусь заўсёды праяўляла вялікую цікавасць да візіту Папы", – падкрэсліў кардынал Паралін. Аднак гэтыя планы не былі канкрэтызаваны, а зараз пандэмія COVID-19 "заблакавала ўсё", невядома, як надоўга. "Думаю, што гэта адзін з візітаў, які Папа будзе разглядаць", – адзначыў Дзяржсакратар Яго Святасці.

# САЛІДАРНЫЯ З МІТРАПАЛІТАМ!




***Прэзідыум Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы***

*"Выказваем салідарнасць усяго еўрапейскага епіскапату з арцыбіскупам Кандрусевічам і Касцёлам у Беларусі ў гэты балючы момант і падзяляем заклік папы Францішка «да дыялогу, да спынення гвалту і да павагі справядлівасці і законнасці». Таксама разам з Папам мы давяраем усіх беларусаў абароне Найсвяцейшай Панны Марыі, Каралевы супакою.*

*Запэўніваючы ў сваёй малітве за ўлюбёнага пастыра і за ўсю беларускую супольнасць, жадаем Мінска-Магілёўскаму арцыбіскупу неадкладнага вяртання дадому і да свайго біскупскага служэння, а таксама заахвочваем усіх дбаць пра мірнае вырашэнне канфлікту і з даверам ісці наперад шляхам дыялогу дзеля дабра чалавека і цэлага грамадства".*



***Майк Пампеа, дзяржсакратар ЗША***

*"Беларускім уладам неабходна дазволіць вярнуцца арцыбіскупу Кандрусевічу, каб ён мог даглядаць за сваёй паствай у час пратэстаў, якія не спыняюцца. Ён і ўвесь беларускі народ павінны без перашкод карыстацца сваімі асноўнымі свабодамі, уключна са свабодай веравызнання".*



***Арцыбіскуп Паола Пецы, старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Расіі (ад імя каталіцкіх біскупаў Расіі)***

*"Умілаваны браце Тадэвуш, мы ведаем пра сур'ёзныя выпрабаванні і цяжкасці гэтага моманту для Твайго народа і для Цябе асабіста. Мы звяртаемся да Цябе з братнім прывітаннем, каб падбадзёрыць і запэўніць у нашых малітвах за Цябе і за Твой народ, каб супакой і дабро перамаглі і заўсёды панавалі ў сэрцах і думках усіх людзей. І тады словы св. апостала Паўла пра першых хрысціян у Македоніі здзейсняцца таксама і на нас, якія жывём сёння, у XXI стагоддзі: «У цяжкім выпрабаванні ўціскам іх вялікая радасць» (2 Кар 8, 2).*

*Ведаем, Ты сёння сумуеш па Айчыне, адчуваеш боль за яе лёс, за лёс яе народа, перажываеш з-за немагчымасці выконваць сваё пастырскае служэнне. Не бойся! Народ Божы моліцца за Беларусь. Спадзеючыся на моц малітвы, мы выказваем надзею, што з Божай ласкі Ты неўзабаве вернешся дадому і працягнеш сваё пастырскае служэнне. Пра гэта мы штодзённа ўзносім просьбы да Найвышэйшага Бога".*



***Крысціян Хартль, выканаўчы дырэктар каталіцкага дабрачыннага фонду "Renovabis"***

*"Гэта сур'ёзнае парушэнне асноўнага права чалавека на свабоду перамяшчэння. Арцыбіскуп Кандрусевіч на працягу многіх гадоў з'яўляецца паважаным партнёрам «Renovabis», цалкам адданым свайму пастырскаму служэнню. Менавіта ў цяперашняй сітуацыі ён быў бы асабліва патрэбны ў Беларусі як пастыр і пасрэднік".*



***Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі***

*"Сумна тое, што біскуп Каталіцкага Касцёла, які з'яўляецца пастырам даручаных яму вернікаў, быў пазбаўлены магчымасці знаходзіцца ва ўласнай архідыяцэзіі і спаўняць у ёй служэнне, даверанае Святым Айцом.*

*На думку ККББ, забарона на ўезд на тэрыторыю краіны арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, які з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, нязгодная з існуючым заканадаўствам, не спрые будаўніцтву канструктыўных адносін паміж дзяржавай і мясцовым Каталіцкім Касцёлам, не служыць змяншэнню напружання і пераадоленню глыбокіх падзелаў у грамадстве.*

*ККББ мае надзею, што справа недапушчэння арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў нашу краіну будзе ў хуткім часе высветлена і акажацца прыкрым непаразуменнем, а таксама што ў будучыні падобныя інцыдэнты не будуць адбывацца".*



***Біскуп Дэвід Дж. Малой, старшыня Камісіі справядлівасці і міру ў свеце (ад імя епіскапату ЗША)***

*"Малюся аб міры і справядлівасці для Беларусі. Заклікаю паважаць правы чалавека ўсіх грамадзян. Запрашаю католікаў і людзей добрай волі далучыцца да Папы ў яго малітвах аб міры і справядлівасці ў Беларусі".*



***Протаіерэй Сергій Лепін, прэс-сакратар Беларускай Праваслаўнай Царквы***

*"Ад сябе асабіста выказваю словы брацкай падтрымкі ўсёй каталіцкай супольнасці Беларусі і жадаю ёй паспяховага вырашэння сітуацыі – незразумелай і небяспечнай. Я спадзяюся на хуткае ўз'яднанне каталіцкай паствы са сваім першаіерархам. Няхай усё будзе добра!".*

**Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.**

# КЛЮЧ ДА СВЯТАСЦІ І ЗБАЎЛЕННЯ

**Сёння мы паразважаем над вобразам Бога, які носім у сваіх сэрцах. Які Ён на самой справе – наш Пан, якога павінны шукаць усёй душою?**

*Кс. Аляксандр Сямінскі*

Благаслаўлёны кс. Міхал Сапоцька падкрэслівае, што духоўнае жыццё чалавека залежыць ад таго, якое паняцце аб Богу той мае. Ён піша: “Калі вобраз Бога з'яўляецца ілжывым, то і адносіны з Ім будуць няправільнымі. У той жа час, калі вобраз Бога праўдзівы, хрысціянін узрастае ў святасці і бязмежным даверы. Правільнае паняцце аб Богу з'яўляецца ключом да святасці, таму што яно рэгулюе нашы паводзіны ў адносінах да Бога, як і Яго адносіны да нас”.

Часам хрысціяне замест таго, каб фарміраваць сапраўдны вобраз Бога, у сваім розуме і сэрцы малююць Яго на ўласнае падабенства: справядлівым, суровым, капрызным, зменлівым – такім Суддзёй, які толькі і чакае, каб пакараць за грэх, зруйнаваць жыццё, адабраць ласку збаўлення. Часам можам уяўляць, што Пан паставіў нас на дарозе з вялікімі перашкодамі, а сам з нейкай зларадасцю сочыць і запісвае штрафныя балы, каб хутчэй дыскваліфікаваць, каб сказаць, што мы прайгралі, што ні на што не годныя, каб скінуць нас у пекла. Такі вобраз Бога з'яўляецца фальшывым і існуе толькі ў хворым чалавечым уяўленні. Гэта не біблейскі вобраз Бога.

Падобныя думкі з'яўляюцца вялікім паклёпам на Бога. Імі асоба прычыняе сабе вялікую шкоду, становячыся фармальнай у адносінах да Творцы. Хто глядзіць на Бога толькі як на суровага Пана і справядлівага Суддзю, заўсёды трымае свае адносіны з Ім на адлегласці, трымае самога Бога на адлегласці, і такім чынам Бог не можа аказаць яму сваю міласэрнасць. Такі чалавек не можа давяраць Пану, таму што ў адносінах з Ім няма сардэчнасці і цяпла, якія вельмі неабходны на шляху да хрысціянскай дасканаласці. Такая пастава можа прывесці чалавека да роспачы – роспачы аб ласцы Божай.

Іншым няправільным вобразам Бога з'яўляецца ўяўленне Яго як такога добранькага дзядулі, які закрывае вочы на нашы грахі, якога можна падмануць, які толькі блаславіць усе дрэнныя ўчынкі. Гэта легкадумны вобраз. Чалавек жыве ў ілюзіі, з думкай: “Буду грашыць, бо Пан міласэрны і ўсё мне даруе”. Неабходна разумець, што Бог добры, але не добранькі. Ён дае нам панесці адказнасць за свой выбар – тое цярпенне, якое нясе з сабой грэх.


wikipedia.org

Агонія ў садзе, Эль Грэка, 1605 г.

Каб давер чалавека да Бога не быў зманлівым і ілюзорным, ён павінен грунтавацца на шчырым навяртанні і сардэчным пакаянні за грахі. “Прызнанне сваёй віны і раскаянне за яе з'яўляецца падножжам для Божай міласэрнасці”, – адзначае кс. Міхал Сапоцька. Божая міласэрнасць – гэта не беспакаранасць. Для кожнага чалавека адмераны абмежаваны перыяд часу, калі можна скарыстаць з ласкі міласэрнасці або прапусціць яе, тым самым падпісаўшы самому сябе прыгавор вечнай пагібелі.

Сапраўдным жа з'яўляецца вобраз Бога, які адкрывае нам Святое Пісанне. Біблія малюе на сваіх старонках Бога як Айца – Айца ўсялякай міласэрнасці, Айца Езуса Хрыста, а ў Хрысце – таксама кожнага з нас. Патрэбна прыняць вобраз Бога як Айца, бо гэта найважнейшая праўда хрысціянства.

**Калі разуменне Бога ілжывае, то і адносіны з Ім няправільныя. У той жа час, калі яно адпавядае рэчаіснасці, хрысціянін будзе развівацца ў святасці і неабмежаваным даверы, таму што правільнае разуменне Бога з'яўляецца ключом да святасці, бо рэгулюе нашы паводзіны ў адносінах да Пана, як, у пэўным сэнсе, і Яго адносіны да нас.**

Вобраз Бога ў Старым Запавеце фарміруецца вельмі павольна, ажно пакуль не дасягае ідэальнай постаці ў вучэнні вялікага прарока Ісаі (параўн. Іс 63, 16; 64, 8). Ён падкрэслівае элемент любові, сардэчнасці і клопату Бога, як аб усім народзе, так і аб кожным канкрэтным чалавеку. Бог з'яўляецца Айцом усіх людзей, як іх Творца, як Той, хто ахвяраваў дар жыцця, хто стварыў чалавека на свой вобраз, падобнага да сябе. Бог для сваіх дзяцей з'яўляецца ласкавым і літасцівым (Мал 3, 17), хаця Яго любоў застаецца такой, што ставіць патрабаванні.

Праўда аб Божым айцоўстве знаходзіцца ў цэнтры Евангелля Хрыста і цэлага Новага Запавету. Ілюстрацыяй гэтай ісціны можа быць прыпавесць пра блуднага сына або малітва Збаўцы ў Гефсіманскім садзе, калі Ён звяртаўся да Бога: “Абба, Ойча”. Новы Запавет не толькі вельмі часта выкарыстоўвае слова “айцец” у адносінах да Бога, але робіць яго ключавым словам Аб'яўлення, перададзенага нам Езусам Хрыстом, Сынам Божым. Сутнасцю гэтага айцоўства з'яўляецца любоў Пана да людзей, а мера Яго любові не ведае межаў. У Першым пасланні апостал Ян дадае: “Паглядзіце, якую любоў даў нам Айцец, каб мы называліся дзецьмі Божымі, і мы з'яўляемся імі!” (1 Ян 3, 1).

Такім чынам, вельмі важнай становіцца малітва аб глыбокім пазнанні Бога. Апостал Філіп мае рацыю, калі кажа Езусу: “Пане, пакажы нам Айца, і хопіць нам” (Ян 14, 8). Пазнанне сапраўднага аблічча Езуса будзе адначасова пазнаннем Айца, да якога Езус вядзе. Пазнаўшы Айца, мы таксама можам пазнаць выхад з самых заблытаных чалавечых спраў і праблем.

Аднак, каб адкрыць сапраўдны вобраз Бога, мы павінны выкрыць Яго ілжывыя вобразы і адмовіцца ад іх. Трэба разбіць у сабе тое, з чым, магчыма, даўно зжыліся, да чаго ўжо прывыклі. Езус павучае: “Сапраўды кажу вам, калі не навернецеся і не станеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае” (Мц 18, 3). Таму будзем прасіць Бога, каб штодзённа пазбаўляў нас ад тых ілжывых вобразаў, якія носім у сваім сэрцы, каб адкрываў нашы вочы на Яго як любячага Айца, каб адчувалі сябе дзецьмі Нябеснага Айца. Ад гэтага залежыць якасць нашых адносін з Богам, якасць нашага жыцця на зямлі, наша святасць, наша збаўленне.

# АСЦЯРОЖНА З РУЖАНЦАМ!

працяг са с. 1

**Як жа маліцца Ружанцам з сям'ёй? Як паказаць гэтую малітву дзецям?**

*Арцём Ткачук*


gosc.pl

### ДАРАСЦІ ДА РУЖАНЦА

У дзяцінстве кастрычнік для мяне быў месяцам пакут – абавязковая ружанцовая малітва ў касцёле, Ружанец дома. Калені балелі, цела ламала. Трэба было перацярпець, вымучаць, вытрываць гэты час. Які сэнс мела такая малітва? Абсалютна ніякага. Катэхетка тлумачыла, што гэта 50 руж для Марыі. Аднак такое тлумачэнне не палягчала мой крыж.

За прыгожым фота сямейнай ружанцовай малітвы могуць стаяць пакуты дзяцей, якія часам перарастаюць у псіхалагічную траўму. Ружанец патрабуе падрыхтоўкі, разумення. Здаецца, што кожны павінен дайсці да яго сам. Стабільнае духоўнае жыццё на працягу стагоддзяў прыводзіла тысячы і тысячы католікаў да гэтага метаду сузірання.

### ЯК ЖА ДАРАСТАЦЬ?

Св. Фаўстына Кавальская пісала: “Калі я ўбачыла, як тата маліўся, то вельмі засаромелася, што я пасля стольких гадоў у манастыры не ўмею так шчыра і горача маліцца” (Дзённік, 398). Хіба што, каб дапамагаць дзецям дарастаць да Ружанца, вельмі важна дарастаць да яго самому. Менавіта дарастаць. Бо калі вучыць з пазіцыі “даросшага”, дзеці раскусяць фальш.

Магчыма, замест цэлага Ружанца ў коле сям'і дастаткова аднаго дзесятка. Ці проста размовы пра Марыю. Ці пра розныя спосабы размовы з Богам. Ці ўвогуле пра тое, кім ёсць Бог. Дзеці разумныя. Яны ўсё зразумеюць. Яны будуць задаваць пытанні, будуць думаць.

Даросламу ж варта “шчыра і горача маліцца”, каб малітва здавалася малодшым чымсьці загадкавым, глыбокім, незразумелым. Раней ці пазней дзіця пастукаецца ў гэты свет. Папросіць ружанец само. Запытаецца, як спраўляцца з нудой, уцякаючымі думкамі, як канцэнтравацца, як кантэмпляваць.

### А ШТО, КАЛІ НЕ ЗАПЫТАЕЦЦА?

Згодзен. І ў не надта добрых бацькоў выраcталі святыя, а ў святых – дзеці нягоднікі. Чаму так? Адказ на пытанне мае толькі Бог. Аднак гэта крайнія выпадкі, і там дзеянне Стварца асаблівае. Хіба не варта кідацца ў крайнасці, каб прадухіліць крайнасці?

Дзіця можа не зацікавіцца Ружанцам. Ніколі. І мае на гэта права. У кожнага ж свой шлях. Святым можна стаць і без штодзённых 50-ці “Вітай, Марыя”. Не цікавілі калісьці гэтыя пацеркі і мяне. Але адзін сказ пэўнага дамініканца і яго прыклад прыдкрылі для мяне гэты свет наноў. Сёння не ўяўляю свайго жыцця без Ружанца. Па ім сумуеш, яго хочаш. Але гэта мой шлях, і, цалкам верагодна, ён будзе нецікавы маім дзецям.

Ружанец – вельмі сур'ёзная малітва. Важна не параніць падрастаючую, маладую псіхіку, бо выпраўленне дзіцячых траўм – цяжкая праца. Дастаткова прыадчыніць дзверы, паказаць ружанцовы свет, але не акунаць у яго сілай і з галавой. Вера – гэта не Ружанец, а Ружанец – не вера. Гэта ўсяго толькі спосаб дасягнення святасці.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Ці можа святар адпраўляць св. Імшу за жывых і памерлых адначасова?

*“Каталіцкі веснік”*

*Кодэкс Кананічнага Права сцвярджае, што “святар можа цэлебраваць св. Імшу за ўсіх – як за жывых, так і за памерлых” (кан. 901). Гэта вельмі добра паказвае нам сам абрад св. Імшы. У Першай Эўхарыстычнай Малітве (Рымскім каноне) спачатку ідзе ўспамін жывых вернікаў, а пазней, пасля перамянення дароў, успамінаюцца памерлыя.*

*Дарэчы, пералічваць імёны жывых і памерлых вернікаў падчас св. Імшы якраз і можна толькі ў Рымскім каноне. Калі казаць пра іншыя Эўхарыстычныя малітвы, якія дазваляецца выбіраць святару самастойна, то і яны збудаваны таксама па гэтым прыкладзе: ідзе ўспамін жывых вернікаў, а пазней – памерлых, аднак не пералічваючы іх імён, калі гаворыцца не пра пахавальныя Імшы альбо пра Імшы за памерлых.*

*Яшчэ Кодэкс Кананічнага Права сцвярджае: “Належыць асобна цэлебраваць св. Імшы ў інтэнцыях тых, за каго было складзена і прынята асобнае ахвяраванне, нават невялікае” (кан. 948). Да гэтага канону неабходна далучыць таксама і прадпісанні Дэкрэта “Mos iugiter” Кангрэгацыі па справах духавенства ад 2 лютага 1991 года, зацверджанага папам Янам Паўлам II. Згодна з артыкулам 1 § 2, парушаюць норму канона 948 і адпавядаюць за гэта ў сумленні “святары, якія, сабраўшы ахвяры на цэлебрацыі св. Імшаў у вызначаных інтэнцыях, не атрымаўшы папярэдняй згоды ахвярадаўцаў, злучаюць іх у адно ахвяраванне і цэлебруюць за іх адну св. Імшу, у г. зв. складковай інтэнцыі”.*

*У артыкуле 2 §1–2 узгаданы вышэй Дэкрэт робіць выключэнне, кажучы: “Калі ахвярадаўцы загадзя паінфармаваныя і адназначна свабодна згаджаюцца, каб іх ахвяраванні былі злучаныя з іншымі ў адно ахвяраванне, можна за іх цэлебраваць адну св. Імшу ў складковай інтэнцыі. У такім выпадку трэба аб'явіць публічна, дзе і калі будзе цэлебравана [складковая] св. Імша, аднак яна не павінна цэлебравацца часцей чым 2 разы на тыдзень”.*

*Таму калі святар хоча спалучыць дзве інтэнцыі ў адну і адправіць адну Імшу, то ён спачатку павінен атрымаць згоду ад вернікаў, якія ахвяравалі інтэнцыі. Калі ж гэта складковая Імша, то святар, які яе цэлебруе, таксама павінен паведаміць пра гэта ахвярадаўцам, як прадпісвае артыкул 2 Дэкрэта “Mos iugiter”; а калі ён гэтага не зрабіў, то парушыў канон 948 Кодэкса Кананічнага Права.*

# САКРЭТ ВЫСЛУХАНАЙ МАЛІТВЫ

**“Давер, які мы маем да Яго, ёсць у тым, што, калі мы просім аб нечым згодна з Яго воляй, Ён чуе нас. А калі ведаем, што Ён чуе нас, аб чым бы мы ні папрасілі, дык ведаем, што мы ўжо атрымалі тое, аб чым прасілі Яго” (1 Ян 5, 14–15).**

*Людвіга Цыдзік*

Чалавек, які трапляе ў жыццёвыя праблемы, звычайна кліча Бога на дапамогу. Але вельмі часта здаецца, што словы малітвы не ўзносяцца вышэй столі. Просьбы множацца, але безвынікова. Св. Якуб сказаў: “Просіце, і не атрымліваеце, таму што дрэнна просіце, каб растраціць на свае пажадлівасці” (Як 4, 3). З гэтага сцверджання можна зрабіць выснову, што малітва бывае дрэннай і добрай. Як жа трэба маліцца, каб Айцец Нябесны пачуў нас і каб жаданне нашага сэрца было выканана?

### ПРАСЛАЎЛЕННЕ І ПАДЗЯКА

Перш за ўсё, варта памятаць, што Бог Айцец стварыў чалавека на сваю хвалу, і наша першапачатковая роля – ушаноўваць Яго, пакланяцца Яго веліччы і мудрасці, праслаўляць Яго імя, незалежна ад складанасці сітуацыі, у якой апынуліся. Таму кожная малітва, незалежна ад інтэнцыі і стану нашай душы, павінна пачынацца з праслаўлення Бога. “Усклікай Пану, уся зямля, з радасцю служыце Пану. Станьце перад Яго абліччам з радасным спевам! Ведайце, што Пан ёсць Богам, Ён стварыў нас, і мы Ягоныя. Мы Яго народ і авечкі Ягонай паствы. Уваходзьце ў брамы Яго з падзякаю, на дзядзінцы Ягоныя з пахвалою, праслаўляйце і бласлаўляйце Яго імя! Бо Пан ёсць добры, навекі Ягоная міласэрнасць, і вернасць Яго з пакалення ў пакаленне” (Пс 100, 1–5).

Бог нашмат большы, чым праблемы, з якімі мы прыходзім да Яго. Калі чалавек разважае і канцэнтруецца толькі на цяжкасцях, з якімі сутыкнуўся, то ён узвышае праблемы, а павінен узвышаць Нябеснага Айца, які здольны знайсці выхад з любой блытаніны. Ствараючы атмасферу хвалы і падзякі за ўсё, што маем і перажываем, мы набліжаемся да Божага трона ласкі, а таксама атрымліваем святло Святога Духа, якое падказвае правільнае вырашэнне сітуацыі.

### У ІМЯ ЕЗУСА

Навучаючы на працягу свайго жыцця, Езус неаднаразова падкрэсліваў, што кожную просьбу неабходна складваць у імя “Yeshua Hamashiach” (Езус Хрыстус Месія). “І тое, аб чым папросіце ў імя Маё, Я зраблю гэта, каб уславіўся Айцец у Сыне. Калі аб чым папросіце Мяне ў імя Маё, Я зраблю гэта” (Ян 14, 13–14). Імя Езуса ратуе і адчыняе нябесныя брамы. Дзякуючы заслузе мукі Сына, Айцец пастаянна хоча ўдзяляць дары, але тыя, якія будуць бласлаўленнем, а не праклёнам для душы.

**Займіся праслаўленнем Бога – і Ён паклапоціцца пра тваю праблему.**

Бог глядзіць на чалавека з перспектывы вечнага збаўлення, і перш чым даць жаданую ласку, Ён вывучае сэрца таго, хто просіць. Ці пазбаўлена яно нянавісці, гневу, пагарды, гонару, эгаізму, высакамернасці і самаўзвышэння, наракання, крытыкі, асуджэння, непрабачэння бліжняму і жадання помсты? Бог гатовы выслухаць і выканаць просьбы тады, калі заключаныя ў іх намеры не абмяжоўваюцца эгацэнтрычнасцю, а чалавечае сэрца максімальна набліжана да сэрца Езуса – ціхае, пакорнае, поўнае спагады, разумення і прабачэння, любові і міласэрнасці, а таксама гатова служыць бліжняму і будаваць Божае Валадарства на зямлі.

### АДНОСІНЫ ДЗІЦЯЦІ З АЙЦОМ

Бог таксама хоча, каб малітва адбывалася па прыкладзе размовы дзіцяці з любячым Айцом, якому можна цалкам давярацъ. Давайце падыходзіць да малітвы з прастатой і любоўю, як дзіця, якому, магчыма, не ўсё ў жыцці ідэальна ўдаецца, але якое заўсёды можа папрасіць парады ў бацькоў. Не варта ставіцца да Бога інструментальна і эгаістычна, як да Таго, у каго можна нешта выtargaваць, памнажаючы свае малітвы. Напрыклад: я, Божа, адгавару 50 Ружанцаў, а Ты мяне аздаровіш. Мы таксама не павінны дыктаваць Богу, як і калі павінен выканаць нашу просьбу, прымушаючы Яго дасягнуць выніку, які мы лічым лепшым. Давайце даручым Усемагутнаму сітуацыю і паверым, што Яго мудрасць пераўзыходзіць нашы чаканні і што Ён сапраўды лепш ведае, што для нас добра і эфектыўна.

*Працяг будзе.*



wikipedia.org

*Малітва Майсея пасля пераходу ізраільцян праз Чорнае мора, Крамской І.М., 1861 г.*

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ. КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ Ў 8.00 НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНАЛЕ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ Ў ГРОДНЕ НА 96,9 FM, У СВІСЛАЧЫ НА 100.8 FM.

*Кс. Юрый Марціновіч*

***27 верасня – XXVI Звычайная нядзеля***
***Мц 21, 28–32***

Езус сказаў першасвятарам і старэйшынам народу: “Як вам здаецца? У аднаго чалавека былі два сыны. Прыйшоўшы да першага, ён сказаў: «Сыне, ідзі і працуй сёння ў вінаградніку». Але той адказаў: «Не хачу!». А пасля, апамятаўшыся, пайшоў. Тады ён падышоў да другога і сказаў тое самае. Той жа сказаў у адказ: «Ужо іду, спадару». І не пайшоў. Каторы з двух выканаў волю бацькі?”. Кажуць Яму: “Першы”.

Тады Езус кажа ім: “Сапраўды кажу вам, што мытнікі і распусніцы наперадзе вас ідуць у Валадарства Божае. Бо прыйшоў да вас Ян шляхам справядлівасці, і вы не паверылі яму. А мытнікі і распусніцы паверылі яму. Вы ж, убачыўшы, не апаматаліся пасля, каб паверыць яму”.

## Не адварочвацца ад Бога

*Езус нагадвае: хто не здольны ўбачыць, што ён грэшны чалавек, які не заслугоўвае Неба, не здолее прыняць і ласку міласэрнасці. Ніхто не адсылае ад брам Неба, толькі дае прыярытэт тым, хто, навяртаючыся, не ўтойвае, што з’яўляецца грэшнікам.*

*Мы можам глядзець на сваю грэшнасць двума спосабамі: бязбожна і з верай. Бязбожна – забываючыся пра Бога, міласэрнасць якога большая за любы, нават самы страшны, непрыстойны і ганебны грэх, альбо з верай, якая дазваляе разглядзець у балючым вопыце ўласнай слабасці невычэрпную Божую ласку.*

*Нашы грахі не вымушаюць Хрыста адвярнуцца ад нас – Ён адступае, устрывожаны людской подласцю. Гэта мы, грэшнікі, адварочваемся ад Яго і спрабуем ісці ўласным шляхам. Аднак нават тады Хрыстос не адыходзіць ад чалавека ні на крок, бо сам запэўніў, што прыйшоў заклікаць да навяртання не праведнікаў, але грэшнікаў, што не здаровым, а хворым патрэбны лекар.*

*Пане Езу Хрыстэ, учыні, каб з верай у сэрцы я заўсёды ішоў за Табой, і не дазволь мне ніколі аддаліцца ад Цябе.*

***4 кастрычніка – XXVII Звычайная нядзеля***
***Мц 21, 33–43***

Езус сказаў першасвятарам і старэйшынам народа: “Паслухайце іншую прыпавесць. Быў адзін гаспадар дому, які пасадзіў вінаграднік, абнёс яго агароджаю, вычасаў у ім давіла, пабудаваў вежу і, аддаўшы яго вінаградарам, адышоў. Калі ж наблізіўся час збіраць ураджай, ён паслаў слуг сваіх да вінаградараў, каб забраць плады свае. А вінаградары, схапіўшы слуг ягоных, аднаго пабілі, другога забілі, а іншага закідалі камянямі. Ён зноў паслаў яшчэ больш слуг, і з імі ўчынілі тое самае. Урэшце ён паслаў да іх свайго сына, кажучы: «Пасаромеюцца сына майго». Але вінаградары, убачыўшы сына ягонага, сказалі адзін аднаму: «Гэта спадкаемца. Хадземце, заб’ём яго і завалодаем спадчынай ягонай». І, схапіўшы яго, выкінулі з вінаградніку і забілі. Калі ж прыйдзе гаспадар вінаградніку, што зробіць ён з гэтымі вінаградарамі?”. Кажуць Яму: “Злодзеяў гэтых пакарае лютаю смерцю, а вінаграднік аддасць іншым вінаградарам, якія будуць аддаваць яму плады ў адпаведны час”. Езус кажа ім: “Няўжо ж вы ніколі не чыталі ў Пісаннях: «Той камень, які адкінулі будаўнікі, стаўся галавою вугла; праз Пана гэта сталася і дзіўнае ў вачах нашых». Таму кажу вам, што адымецца ў вас Валадарства Божае і дадзена будзе народу, які прынясе плады яго”.

## Не змарнаваць Божыя ласкі

*Гэтая прыпавесць з’яўляецца абагульненнем усёй гісторыі збаўлення. Вінаграднік сімвалізуе народ Ізраіля. Яго гаспадар – Бог, вінаградары – правадыры людзей, слугі – прарокі, а жорстка забіты сын – Езус Хрыстус – краевугольны камень, на якім будзе ўзведзены новы будынак, новы Божы Народ, Касцёл. Да яго будуць належаць усе, хто паверыць словам Збаўцы.*

*Як хрысціяне мы цешымся вялікай прывілеяй – ласкай быць абранымі і ўключанымі ў супольнасць Касцёла. Аднак павінны ўсведамляць, што наша жыццё ў Божым вінаградніку, якім з’яўляецца Касцёл, павінна прыносіць бласлаўлёныя плады: справядлівасць, мір, павагу да іншых людзей, а значыць, усё, што з’яўляецца выкананнем закона любові – канстытуцыі Божага Валадарства. Калі так не станецца, Хрыстова Валадарства будзе адабрана ў нас, і змарнуем тую вялікую ласку, якую Езус заслужыў для нас, паміраючы на крыжы.*

*Пане Езу, удзялі мне ласку заўсёды быць верным Табе, каб магчы аказацца ў Тваім Валадарстве і цешыцца вечным жыццём.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, нястомнай радасці, шчасця і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай міласэрны Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця, Езус падтрымлівае ва ўсім, Найсвяцейшая Маці апекуецца і дапамагае ў складаныя хвіліны жыцця, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння складаю сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай, надзеі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, умацоўвае розум і сэрца, каб Слова, што выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём, святлом і моцай для нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна з'ядноўваюць Вас з Богам, каб ніколі не аддаляліся ад Яго. А мая гарачая і сардэчная малітва няхай будзе для Вас падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці.*

*Са шчырай малітвай*
*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ БАГУСЛАВУ ВУЙТОВІЧУ

*з нагоды імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.*

*З памяццю ў малітве*
*члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Гальшанаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас здароўем на доўгія гады жыцця, Найсвяцейшая Маці чувае над Вамі кожны дзень і мае ў сваёй апецы, а Святы Дух адорвае шчодрымі ласкамі, радасцю і спакоем. Сардэчна Вам дзякуем за ўдзяленне нам Божага слова.*

*Францысканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*З памяццю ў малітве Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем здароўя, радасці, мудрасці, цярплівасці, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Маці Божая заўсёды Вам дапамагае, а святы заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.*

*З памяццю ў малітве*
*былыя парафіяне са Мсцібава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Святы Дух ніколі Вас не пакідае, Маці Божая моцна трымае за руку, а святы заступнік заўсёды будзе побач і дапамагае годна пераадольваць кожны дзень.*

*З памяццю ў малітве*
*члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Капцёўкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ УЛАДЗІСЛАВУ СУРВІЛУ

*з нагоды імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні.*
*Хай моманты шчасця нястомна множацца,*
*І кветкі квітнеюць на Вашым шляху.*
*Заўсёды цешыцца апекай Божай*
*І любіце шчыра працу сваю.*
*Хай Божая Маці, што з алтара зорыць,*
*Шмат ласкаў удзеліць, здароўем адорыць,*
*Каб ксёндз паважаны ўсю жыцця дарогу*
*Служыў на карысць людзям і на хвалу Богу.*
*Каб жыццё квітнела ярчэй майскіх садоў,*
*Жадаем Вам здароўя і традыцыйных 100 гадоў!*

*З глыбокай пашанай члены касцёльнага хору разам з арганістам з парафіі Войстам*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ СТЭЦКЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім блаславенствам, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом міласэрнасці.*

*З памяццю ў малітве*
*члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Першамайска-Бердаўкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым блаславенствам, побач будуць добразычлівыя людзі, а здароўе, радасць і поспех ніколі не пакідаюць. Жадаем шчодрых Божых ласкаў, а таксама няспыннай апекі Панны Марыі.*

*Парафіяне з Поразава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог праз нашы малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, шчасцем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і аддананай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, ахіне ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, чаго ўдалося дасягнуць. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву і цярплівасць да нас.*

*З удзячнасцю парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЛЕАНАРД СТАНКОЎСКІ!

*Шчыра віншуем Вас з нагоды юбілею. Мы ўдзячны Пану Богу за дар святарства для Вас, а таксама ўсім Вашым родным і тым, хто маліўся аб дары паклікання, падтрымліваў і дапамагаў у складаныя хвіліны. Шчыра дзякуем Вам за шматгадовую душпастырскую апеку, клопат пра нас і парафію, за тое, што былі побач у цяжкі час. Жадаем Вам моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і Божага блаславенства. Аб гэтым просім міласэрнага Бога ў сваіх малітвах.*

*Вернікі з касцёла Апекі НПМ у Дайлідках*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ УРБАНУ

ў сувязі са смерцю мамы складаем шчырыя спачуванні і словы хрысціянскай падтрымкі. Няхай міласэрны Бог прыме душу памерлай у сваё Валадарства!

*З малітвай Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла МБ Нястомнай Дапамогі ў Парэччы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ МАХНАЧУ І ЯГО РОДНЫМ

у сувязі са смерцю таты перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог дадасць Вам моцы, каб перажыць цяжар страты блізкага чалавека. Яднаемся з Вамі ў малітве аб супакоі для душы памерлага.

*З павагай і малітвай вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**рэлігійны часопіс**

Мы прыехалі да турмы на Акрэсціна тады, калі там ужо не было страху, была надзея і свабода. Свабодныя і ўпэўненыя людзі рабілі сваю работу: вызваленых вязняў валанцёры адразу вялі фіксаваць усе пабоі і траўмы, медыкі апрацоўвалі раны, была прывезена гарачая ежа, цэлыя каманды псіхолагаў праводзілі кансультацыі для пацярпелых і іх родных, вопытныя адвакаты пакрокава тлумачылі, што людзям рабіць далей. А мы ў гэтае месца напружанай, але вельмі канкрэтнай дапамогі прыехалі, каб зрабіць у валанцёрскім лагеры алтарык. Спакойна паставілі стол, заслалі абрусам, павесілі крыж, расставілі абразы і свечкі…




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

"Візантыйскі каталіцкі патрыярхат" актыўна спекулюе на грамадска-палітычным крызісе ў Беларусі, хоць не мае нічога супольнага з нашай крайнай. Дзейнасць псеўдарэлігійнай секты заключаецца ў правакацыйных выступленнях, у якіх самазванцы займаюцца ачарненнем іерархаў Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы. Цяпер яны крытыкуюць арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча за заклікі да спынення насілля.

Секта ўзнікла з групы асоб, якія ў 2003–2008 гадах адкалоліся ад Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, а ў 2011 годзе абвясцілі сябе "патрыярхатам" на чале з былым каталіцкім ксяндзом з Чэхіі Антанінам Дагналам.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

У катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску асвяцілі новую фрэску з выявай св. Яна Паўла ІІ. Яе ўсталявалі ў знак удзячнасці Богу з нагоды перажывання 100-годдзя з дня нараджэння вялікага Папы-славяніна. Менавіта яго словамі "Малітвы за Айчыну" сёння моляцца людзі ў касцёлах нашай краіны і ўсяго свету.

Парафіяльная супольнасць удзячна перадусім Богу, а таксама святарам-ахвярадаўцам за цудоўную выяву св. Яна Паўла ІІ, якая нагадвае вернікам пра сыноўскі давер да Багародзіцы. Асабліва зараз, у вельмі неспрыяльны час, калі так важна абвяшчаць справядлівасць, а зло заўсёды перамагаць дабром.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Алюмн 5 курса Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне Андрэй Юхнік прыняў паслугу акалітату. Яе навучэнцу ўдзяліў Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі.

У гаміліі падчас св. Імшы ў семінарыйнай капліцы іерарх падкрэсліў, што ў гэтай паслузе Езус не толькі дазваляе дакранацца да сябе, але і дакранаецца да самога акаліта – надзвычайная распарадчыка св. Камуніі.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3994; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.